Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
Галоўны рэдактар Ігар Гермянчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец – рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Наклад 18 250.
Адрас для карэспандэнцыі:
220088, г.Мінск,вул. Іванаўская, 56.
Тэл/факс: 236-89-40

# НАВІНЫ



Аўторак, 15 снежня 1998 г. № 135 (527) Кошт свабодны

**СВАБОДА**
Забаронена 24 лістапада 1997 г.

## Шарэцкі просіць дапамогі

**Старшыня Вярхоўнага Савета Сямён Шарэцкі звярнуўся да народаў і ўрадаў свету з лістом «Аб аказанні тэрміновай гуманітарнай дапамогі беларускаму народу».**



*«На лёс беларусаў выпалі цяжкія выпрабаванні,* — гаворыцца ў звароце. — *Здароўе нацыі сур'ёзна падарвала Чарнобыльская катастрофа, а таксама эканамічныя і палітычныя катаклізмы, выкліканыя ўзурпацыяй дзяржаўнай улады дыктатарскім рэжымам А.Лукашэнкі. Даходы людзей не забяспечваюць нармальнага харчавання; на лекі і іншыя патрэбы зарплаты і пенсіі не хапае».*

Старшыня Вярхоўнага Савета просіць неадкладна дапамагчы Беларусі харчаваннем і медыкаментамі, пры гэтым ён запэўнівае, што гуманітарныя грузы будуць размяркоўвацца пад эгідай адпаведных міжнародных арганізацыяў.

**Андрэй ПРАКАПОВІЧ**

## АБСЕ вучыць назіральнікаў

**Пад эгідай місіі АБСЕ ў Мінску з 10 па 17 снежня праходзіць семінар, дзе абмяркоўваюцца праблемы назірання за ходам выбараў.**

Сваім досведам у гэтай справе з беларускімі ўдзельнікамі ўжо падзяліліся дарадца групы АБСЕ Мішэль Рывальс, старшыня Цэнтральнай выбарчай камісіі Літвы Зінонас-Вайгаўскас, прадстаўнік ЦВК Украіны Тарас Пастушэнка, эксперты з Вялікабрытаніі, Швейцарыі і Польшчы. Яны расказалі пра міжнародны вопыт назірання за выбарамі, правах і правілах паводзінаў назіральнікаў, а таксама пра найбольш распаўсюджаныя выпадкі парушэнняў падчас выбарчых кампаніяў.

Як паведаміла на семінары старшыня Цэнтрвыбаркама Беларусі Лідзія Ярмошына, у пятніцу ў другім чытанні дэпутаты ніжняй палаты «амаль поўнасцю» прынялі новы Закон аб выбарах дэпутатаў мясцовых Саветаў. Не прайшлі толькі два артыкулы: аб планцы ўдзелу выбаршчыкаў у другім туры галасавання і паўторных выбарах. Праект закона, які ўнёс прэзідэнт, прадугледжвае 50-працэнтную яўку выбаршчыкаў, унесеных у спісы. У палаце прапанавалі знізіць планку да 25 працэнтаў. Па словах Л.Ярмошынай, меркаванні дэпутатаў на гэты конт раздзяліліся, і канчатковае рашэнне пытання адкладзенае да аўторка. Пасля прыняцця закона, паведаміла старшыня ЦВК, выбары ў мясцовыя саветы будуць прызначаныя на вясну.

**Наталля ВАЛАКІДА**

## Арышты ў Віцебску

**У Віцебску двое актывістаў БНФ атрымалі па 10 сутак арышту.**

Барыс Хамайда і Юрась Карпаў былі пакараныя за тое, што арганізавалі несанкцыяваны пікет з патрабаваннем выпусціць з-за кратаў Уладзіміра Плешчанку. Ён ужо чацвёрты месяц утрымліваецца ў віцебскім следчым ізалятары па абвінавачванні ў знішчэнні помніка расійскаму генералісімусу Сувораву.

**Леў КАМЕНСКІ**



# Паслоў чакае наваселле, але не ў Драздах




*Апошні візіт паслоў пяці краінаў ЕС у беларускі МЗС (чэрвень 1998 г.). Яны перадалі ноту з заявай аб тым, што пакідаюць Беларусь «на няпэўны тэрмін».*

У вырашэнні «драздоўскай» праблемы намеціўся прагрэс. У сумеснай заяве на гэты конт, якую падпісалі 9 снежня прадстаўнік МЗС Беларусі і пасланнік Еўрапейскага саюза, ёсць некалькі важных момантаў. Па-першае, афіцыйны Мінск нарэшце прызнаў, што рэзідэнцыі дыпламатаў у Драздах знаходзіліся пад аховай Венскай канвенцыі і мелі статус недатыкальнасці. Па-другое, беларускія ўлады згадзіліся адкрыць замежным паслам «шырокі доступ у свае ранейшыя рэзідэнцыі на тэрыторыі комплекса «Драздны». Але дыпламатам прапанавана на працягу аднаго месяца вызваліць «драздоўскія» апартаменты і пераехаць у новыя рэзідэнцыі. Беларускія ўлады абяцаюць садзейнічаць у заключэнні новых дамоваў аб арэндзе.

У пятніцу амбасада Вялікабрытаніі распаўсюдзіла заяву, у якой вітае прынцыпы сумеснага пагаднення па Драздах, і спадзяецца, што спрэчка вакол рэзідэнцыяў набліжаецца да вырашэння. Брытанцы выказваюць надзею, што ў будучым беларускія ўлады не парушаць ні літару, ні дух палажэнняў Венскай канвенцыі.

У інтэрв'ю карэспандэнту БелаПАН Марк Пецік, часовы паверáны Вялікабрытаніі ў Беларусі, заявіў наступнае: *«Некаторыя сродкі масавай інфармацыі ўжо паспелі заявіць аб вяртанні паслоў як аб чымсьці вырашаным. На самой справе, паміж краінамі ЕС і ўрадам Беларусі яшчэ застаецца некалькі нявырашаных пытанняў, аднак я спадзяюся, што ўсе пяць паслоў краінаў Еўрапейскага саюза, у тым ліку і Джэсіка Пірс, вернуцца ў Мінск яшчэ да канца бягучага года».*

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

# Войска Данское памірае з голаду

**Расійскія казакі просяць прэзідэнта Лукашэнку і прэм'ер-міністра Лінга расплаціцца за пастаўленую ў Беларусь пшаніцу.**

Представители Всевеликого Войска Донского (АПФ "Степи Приазовья") отправили в Республику Белорусия в адрес фирмы "Комстар-Сервис" 500 тонн пшеницы, отправка произведена в августе 1997 года, поставленная продукция не оплачена.

Просим Вас оказать содействие и рассмотреть вопрос об оплате за поставленную пшеницу.

С уважением,

Атаман Всевеликого Войска Донского
казачий генерал-лейтенант Н.И.Козицын




Яшчэ ў жніўні 1997 года данскія казакі накіравалі ў нашую краіну 500 тон пшаніцы. Беларусы ўжо даўно з'елі казацкі хлеб, а заплаціць не спяшаюцца. Атаман войска Данскога генерал-лейтэнант Казіцын просіць прэм'ера Лінга «пасадзейнічаць» у вяртанні доўгу. Але вырашыць праблему можа толькі Рыгоравіч, які забараніў праводзіць разлікі з расійскімі прадпрыемствамі *«з-за цяжкага фінансавага становішча ў краіне».*

Абураныя казакі патрабуюць вярнуць даўгі, бо ў «стэпах Прыазоўя» ўжо другі год не выплачваюць зарплату і людзям няма за што жыць. Такія адносіны, на іх думку, *«падрываюць аўтарытэт Лукашэнкі як прэзідэнта і старшыні Саюза Беларусі і Расіі».* Але што рабіць, калі ў беларускай казне практычна няма грошай. Войска Данское можа атрымаць за сваю пшаніцу хіба толькі яйкі.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

## Подпісы за вызваленне дэпутатаў

**У абарону дэпутатаў Вярхоўнага Савета Беларусі А.Клімава і У.Кудзінава сабрана 160 подпісаў еўрапейскіх парламентарыяў**

Працягваецца міжнародная кампанія ў абарону дэпутатаў Андрэя Клімава і Уладзіміра Кудзінава, першы з якіх, як вядома, знаходзіцца пад арыштам, другі — прыгавораны да працяглага тэрміну турэмнага зняволення.

Як паведамілі ў камісіі па міжнародных справах Вярхоўнага Савета Беларусі, у абарону Клімава і Кудзінава сабрана 160 подпісаў дэпутатаў нацыянальных парламентаў, а таксама Еўрапейскага парламента. Літаральна днямі да гэтай міжнароднай акцыі салідарнасці далучыліся 27 дэпутатаў з фракцыі «Рух» Вярхоўнай Рады Украіны. Да канца гэтага года арганізатары акцыі плануюць сабраць 500 дэпутацкіх подпісаў у абарону калег-парламентарыяў.

*БелаПАН*

## Аперацыя «Рубеж-98»

**На дзяржаўных межах Беларусі праходзіць спецыяльная пагранічная аперацыя «Рубеж-снежань-98».**

Аперацыя праводзіцца з мэтай выканання дэкрэта прэзідэнта Беларусі №15 і яго нага распараджэння аб неадкладных захадах па абароне спажывецкага рынку. Гэта ўжо пятая ў бягучым годзе спецыяльная аперацыя, якую арганізуюць і праводзяць беларускія пагранічнікі сумесна з прадстаўнікамі іншых сілавых ведамстваў рэспублікі. Як падкрэслілі ў прэсцэнтры Дзяржкамітэта пагранвойскаў, усе папярэднія аперацыі прынеслі значныя вынікі ў выглядзе затрыманняў буйных партыяў кантрабандных тавараў і соцень парушальнікаў дзяржаўнай мяжы.

*БелаПАН*

### *Сустрэчы*

***Аляксандр Лукашэнка плануе 17 снежня сустрэцца ў Маскве з прэзідэнтам Расіі Барысам Ельцыным.***

### *Беспрацоўе*

***Са 106 тысяч беспрацоўных, афіцыйна зарэгістраваных у Беларусі, палову складаюць маладыя людзі ва ўзросце ад 16 да 29 гадоў. Такія даныя прывёў намеснік старшыні камітэта па занятасці насельніцтва Мікалай Коханаў.***



*На Камароўскім рынку ў Мінску цэны «кусаюцца». Напрыклад, кілаграм добрай свініны каштуе 550 тыс. рублёў за кілаграм, сала — ад 240 да 290 тысяч. Ні варанай каўбасы, ні сасісак у мінулыя выхадныя на Камароўцы не было. Дзесятак яек прадавалі па 150 тыс.рублёў.*

## Генадзь Карпенка складае спіс

**Генадзь Карпенка на сустрэчы з дэмакратычным актывам Гомеля назваў каманду, якая, на ягоную думку, павінна заняцца вывадам Беларусі з эканамічнага і палітычнага крызісу.**

У спісе Г.Карпенкі, акрамя яго самога, значацца С.Шушкевіч, З.Пазьняк, Ю.Хадыка, В.Ганчар, С.Багданкевіч, М.Чыгір, А.Саннікаў, В.Кез, Ю.Захаранка. Пры гэтым сп.Карпенка зазначыў, што не можа пакуль назваць прозвішчы тых сумленных і здольных людзей, якія цяпер працуюць ва ўрадзе РБ.

Пасля абеда ў Палацы культуры хімзавода павінна была адбыцца сустрэча Генадзя Карпенкі з шырокай гомельскай публікай. Але некалькі сотняў людзей, якія прыйшлі на сустрэчу, палац сустрэў зачыненымі дзвярыма і аб'явай, што з сённяшняга дня правядзенне масавых мерапрыемстваў забаронена дзяржпажарнаглядам. Між тым, за арэнду памяшкання было заплачана 6 мільёнаў рублёў, зрыў сустрэчы стаў поўнай нечаканасцю для арганізатараў.

**Уладзімір ВАЛЕЎСКІ**

## Пікет у Рызе

**У сталіцы Латвіі студэнты рыжскага універсітэта 10 снежня правялі пікет каля беларускай амбасады. Акцыя была прымеркаваная да 50-гадовага юбілею Дэкларацыі правоў чалавека.**

Пікетаванне адбылося па ініцыятыве беларускай Хартыі-97 і мела даволі значны рэзананс у латвійскіх СМІ. Пра пікет паведамілі 12 буйнейшых газет гэтай краіны, а таксама 10 радыёстанцыяў і некалькі вядучых тэлеканалаў.

Удзельнікі пікета перадалі ў пасольства свой ліст да прэзідэнта А.Лукашэнкі. У ім, у прыватнасці, гаворыцца: *«Спадар прэзідэнт, мы заклікаем вас і ўрад РБ прытрымлівацца абавязацельстваў вашай краіны, якія яна нясе ў адпаведнасці з міжнароднымі пагадненнямі ў галіне правоў чалавека».* Пікетчыкі таксама заклікалі беларускія ўлады *«вызваліць палітзняволеных і спыніць пераслед актывістаў дэмакратычных партыяў і прафсаюзаў».*

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

## Візавыя змены

**З 14 снежня мяняецца час работы візавага аддзела пасольства ФРГ у Мінску.**

Прыём дакументаў цяпер будзе ажыццяўляцца з панядзелка па пятніцу з 8.30 да 12.00 гадзінаў; выдача візаў — з панядзелка па чацвер з 14.00 да 16.00, у пятніцу — з 14.00 да 15.00. З 24 снежня 1998 года па 3 студзеня 1999 года ўключна візавы аддзел пасольства ФРГ працаваць не будзе.

## Ікра не прайшла

**Беларускія пагранічнікі сумесна з работнікамі мытных органаў прадухілілі днямі нелегальны вываз з тэрыторыі Беларусі буйной партыі чорнай ікры.**

Пры даглядзе ў пункце пропуску «Варшаўскі мост» у Брэсце аўтобуса «Ікарус» з турыстамі з Махачкалы (Дагестан, Расія) у тайніках былі знойдзеныя 2.935 бляшанак чорнай ікры па 135 грамаў кожная. Партыя кантрабанды ацэненая ў 5 мільярдаў 870 мільёнаў рублёў.

*БелаПАН*

## Петыцыя прэзідэнту ад маладых палітыкаў

**Беларуская асацыяцыя маладых палітыкаў адзначыла 50-гадовы юбілей Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека петыцыяй на адрас Аляксандра Лукашэнкі.**

У гэтым дакуменце маладыя палітыкі выказалі сваё «фэ» (ці, калі больш дакладна, сваё «НЕ») на самых розных праблемах: «Не — беззаконню і самадурству», «Не — мінімальнай зарплаце ў паўтара долара» і г.д. Падобных «не» маладыя палітыкі назбіралі 50 — столькі ж, колькі гадоў споўнілася Дэкларацыі.

Петыцыю падпісалі кіраўнікі 10 маладзёжных арганізацыяў, сярод якіх «Грамадзянскі форум», «Маладая грамада», «Малады Фронт» і нават ЛКСМ.

Прадстаўнікі гэтых арганізацыяў жадалі ўручыць петыцыю асабіста Лукашэнку ці хаця б нейкай іншай адказнай асобе — напрыклад, кіраўніку адміністрацыі Мясніковічу. Аднак у суправаджэнні маёра міліцыі іх накіравалі ў грамадскую прыёмную.

Але і там узніклі праблемы. Справа ў тым, што тэкст дакумента быў выкананы каляровымі фарбамі і буйнымі літарамі на вялізных аркушах ватману. Загадчык сектара па арганізацыі прыёму грамадзянаў сп.Сідаровіч прымаць петыцыю адмовіўся, яму не спадабаўся фармат паслання. У акцыі перадачы петыцыі ўдзельнічалі каля 20 маладых палітыкаў.

**Вадзім КАЗНАЧЭЕЎ**

## Мінскія ўлады просяць валюту

**Мінскі гарвыканкам звярнуўся да прадпрыемстваў, арганізацыяў і ўстановаў усіх формаў уласнасці з заклікам пералічыць валюту ў спецыяльны фонд для закупкі харчавання за мяжою.**

Як паведаміла галоўны бухгалтар Мінгарвыканкама Лілія Нікіціч, у фонд ужо паступаюць грошы — як валюта, так і беларускія рублі. Па яе словах, звычайныя грамадзяне ахвотна робяць ахвяраванні ў фонд, праўда, у беларускіх рублях. Невялікія сумы ў доларах ахвяруюць прыватныя прадпрымальнікі. А вось прадпрыемствы пагаджаюцца толькі часова пазычыць валютныя сродкі гарвыканкаму.

Агенцтва БелаПАН паведаміла, што ў фонд ужо паступіла больш за 32 мільярды рублёў, 124 тысячы долараў і 7 тысяч нямецкіх марак. Па словах Л.Нікіціч, пакуль гарадскія ўлады толькі акумулююць рублі і валюту на банкаўскім рахунку, а харчовымі закупкамі яны будуць займацца пазней.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

## Вёска без грошай

**Многія калгасы і саўгасы Брэсцкай вобласці не расплаціліся са сваімі работнікамі яшчэ за жнівень-верасень.**

Агульная сума запазычанасці па зарплаце набліжаецца да 200 мільярдаў рублёў. Найгорш ідуць справы з выплатамі ў Баранавіцкім, Кобрынскім, Івацэвіцкім, Лунінецкім, Пружанскім і Пінскім раёнах.

Акрамя таго, сярэдняя зарплата ў жыхароў сяла склала менш за 2 мільёны рублёў. Гэта значна ніжэй не толькі за сярэднюю зарплату ў вобласці (5 мільёнаў 159 тысяч рублёў), але і за пражытачны мінімум.

**В.К.**

## Дзень аўкцыёнаў

**У рамках праекта «Малая прыватызацыя ў Беларусі» 15 снежня пройдуць аўкцыёны па продажы аб'ектаў камунальнай уласнасці ў Гомелі, Бярозе, Лідзе і Баранавічах.**

Удзельнікам аўкцыёна ў Гомелі будуць прапанаваныя гандлёвы цэнтр, павільён, два будынкі і незавершанае будаўніцтва. Адзін з аб'ектаў — кінатэатр «Ракета» — прадаецца за 2 мільярды 901 мільён рублёў. А на аўкцыёне ў Баранавічах на таргі выстаўлены аўтобус, абсталяваны як экспрэс-кафэ.

*БелаПАН*

## Пункт для наркаманаў

**У гомельскай паліклініцы № 13 адкрыўся першы ў горадзе пункт сацыяльна-прафілактычнай дапамогі наркаманам.**

Пакуль што дзейнасць пункта зводзіцца да бясплатнай выдачы шпрыцоў і прэзерватываў. Але ў перспектыве будуць арганізаваныя кансультацыі разнастайных спецыялістаў. Усім наведвальнікам установы гарантуецца поўная ананімнасць.

**Уладзімір ВАЛЕЎСКІ**

# Забойства з асаблівай жорсткасцю

**У суботу ў Гродзенскай вобласці пахавалі пасажыраў мікрааўтобуса, якія загінулі 7 снежня ад рук невядомых забойцаў на аўтамагістралі Беларусь — Масква ў раёне горада Ярцава Смаленскай вобласці.**

У мінулым нумары мы паведамілі аб акалічнасцях гэтага жорсткага забойства. Ахвярамі сталі шэсць жыхароў Гродна, старэйшаму з іх — Іосіфу Бялугу было 49 гадоў, а самаму малодшаму Івану Мішкелю споўніўся ўсяго 21. Праз месяц збіраўся жаніцца. На пахаванні прысутнічала ягоная нявеста. Праводзіць нябожчыка на вуліцы сабралася чалавек трыста, прыйшло шмат моладзі. Хавалі хлопца з белым бантам на штрыфелі пінжака, як жаніха. У яго было восем нажавых ранаў і адна кулявая.

Мэтай злачынцаў, відавочна, было абрабаванне. Але, па адной з версій, сума грошай, якую везлі з сабой у Маскву гродзенцы, была адносна невялікай — некалькі тысяч долараў. Гэта магло раз'юшыць забойцаў. У большасці ахвяраў былі выдзертыя кішэні, нават на кашулях, якія былі пад світэрамі. Ускосныя дадзеныя ўказваюць, што злачынцы маглі шукаць нібыта схаваныя грошы. Вядома, што забойцы спачатку здзекаваліся з ахвяраў — усе целы (па некаторых звестках, апроч аднаго) усцяж сколатыя нажамі. Потым ахвяраў дабівалі гэтак званым кантрольным стрэлам — у лоб, патыліцу або вуха. На целе аднаго з мужчын было каля дваццаці нажавых ранаў. Жанчына мела тры кулявыя раны.

Івану Мішкелю прапанавалі ехаць у Маскву ўпершыню. У ролі напарніка шафёра ён мог зарабіць за паездку 25 долараў. Родныя гавораць, што ў яго былі кепскія прадчуванні.

Мне давялося таксама пабываць у сям'і Іосіфа Бялугі. Сябры нябожчыка расказалі, што ў дарогу ён заўсёды браў рацыю, настроеную на хвалю, якой карыстаюцца шафёры TIRаў. Яны лічаць, што ў выпадку небяспекі ён мог звязацца з кім-небудзь па рацыі. Ім здаецца падазроным таксама тое, што мікрааўтобус *mersedes*, на якім ехалі гродзенцы, спыніўся ноччу ў бязлюдным месцы. Паколькі прафесіяналы, якім быў у прыватнасці І.Бялуга, памятаючы пра небяспеку, ніколі не спыняюцца ноччу. З напарнікам за рулём мяняюцца, толькі сцішыўшы хуткасць. Не спыняюцца нават, каб схадзіць у прыбіральню. Ядуць таксама ў дарозе. Спыніцца яны маглі хіба што ў двух выпадках: па просьбе тых, каго яны ведалі, альбо міліцыі (ці пераапранутых у міліцэйскую форму злачынцаў). «Хваста» з Беларусі за імі не было, паколькі пасля пераезду імі расійскай мяжы ў гадзіну ночы і да меркаванага часу трагедыі — прыблізна ў 2 гадзіны — машын следам болей не было зафіксавана.

У Гродне створана аператыўная група для расследавання гэтага забойства, у горад прыбылі са Смаленска два расійскія следчыя.

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ, Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**



## «Наезд» на міліцыю

**Больш за 20 беларускіх міліцыянтаў былі нядаўна ў Берліне на міжнародным семінары па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю. Адзін з нашых удзельнікаў «сумясціў прыемнае з карысным» — набыў аўтамабіль *Mazda*.**

Дадому міліцыянты вярталіся праз Польшчу. Асноўная група — на аўтобусе, двое — на машыне. Яны і сталі ахвяраю рэкеціраў з горада Кобрына Брэсцкай вобласці. Рэкеціраў было трое, і яны змаглі справіцца з двума міліцыянтамі даволі хутка. Але тут падаспеў аўтобус з таварышамі. Спецыялісты па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю здолелі затрымаць толькі аднаго рэкеціра.

**Зміцер ЛІХТАРОВІЧ**

## Германия сократит взносы в ЕС

Немецкий канцлер Герхард Шрёдер заявил о том, что он воспользуется председательством Германии в Европейском союзе с января будущего года, чтобы добиться сокращения взносов ФРГ в казну ЕС.

Выступая в парламенте, Шрёдер заявил, что Германия не может продолжать оплачивать расположение к себе своих соседей. Взносы ФРГ в бюджет ЕС намного превышают взносы других стран: они примерно на 13 млрд. долларов превышают средства, которые возвращаются Германии в виде помощи и субсидий. Сказанное Шрёдером может прямо повлиять на расширение Евросоюза.

**Андрей ЛЕВКИН**

## В Дании едят лучше всех

Самой благополучной страной мира в продовольственном отношении является Дания. Страной, где больше всего людей страдает от голода, оказалась Сомали.

К такому выводу пришли эксперты ООН, составившие своеобразную «карту питания», в которую включили 177 стран. В числе наиболее благополучных — Португалия, Ирландия, США и Греция. Согласно выводам специалистов, жители этих стран могут позволить себе регулярные «праздники желудка». Среди «голодающих» — Бурунди, Эритрея, Афганистан и Мозамбик.

**Н.И.**

*ДАГЕРРОТИП*

**Семен БУКЧИН**

«Тэчки» — это по-польски папки. Те самые — канцелярские, картонные. А жесточайший спор о них кипит в Польше потому, что дело касается содержимого этих самых папок. Речь идет о документах, хранящихся в архивах спецслужб. В Польше подготовлен проект закона, согласно которому любой гражданин, преследовавшийся прежним режимом, сможет ознакомиться с заведенным на него «делом», с доносами и прочими «материалами», собиравшимися в «тэчках».

Закон этот — естественное продолжение общественной линии, связанной с восстановлением справедливости, попранной во времена ПНР. Подобные законы действуют в Чехии, Венгрии, Германии. Но одно дело — высокие слова о справедливости, демократический пафос. И совсем другое — реальное воплощение такого закона. Тут начинаются проблемы... Кто-то доносил на сограждан... А кто-то и впрямь боролся с зарубежной агентурой, желавшей выведать государственные секреты той же Народной Польши... Многое перепелелось...

Проблема осложняется еще и тем обстоятельством, что доступ к «тэчкам» самым непосредственным образом связан с уже принятым в стране законом о люстрации, то есть проверкой «на вшивость» среднего и высшего

# Польша спорит о «тэчках»

***В Польше подготовлен проект закона, согласно которому любой гражданин, преследовавшийся прежним режимом, сможет ознакомиться с заведенным на него «делом», с доносами и прочими «материалами»***

чиновничества страны. Президент, министры, судьи, прокуроры, адвокаты, редакторы газет и другие видные деятели должны будут заявить о своих связях (или отсутствии таковых) со спецслужбами коммунистической Польши. Специальный люстрационный суд будет решать вопрос о том, имеет ли право тот или иной человек занимать соответствующий пост, осуществлять определенного вида деятельность. Польша жаждет очищения, без которого движение вперед представляется невозможным, а разговоры о демократии и справедливости безнравственными.

Проект закона об архивах ПНРовских спецслужб предусматривает создание Института национальной памяти, в котором должны быть сосредоточены все дела лиц репрессированных и тех, о ком собиралась информация, начиная с 22 июля 1944 г. до конца 1989 г. В Институте предполагается собрать архивы судов, прокуратуры и спецслужб, поскольку одной из главных его задач должно стать расследование коммунистических и нацистских преступлений.

И вот буквально на днях президент Квасьневский воспользовался своим правом вето. Нет, президент Польши не против того, чтобы «тэчки» были доступны. Но он считает, что заглянуть в свои «дела» должны иметь право не только «обиженные», но все граждане страны. Но в таком случае и бывший сотрудник спецслужб, претендующий на важную государственную должность, может придти в Институт национальной памяти и убедиться, сохранились или нет компрометирующие его бумаги. И если не сохранились (а немало документов было уничтожено в «переходный» период), то он, естественно, и соответствующее заявление сделает...

Квасьневский недоволен принципами формирования руководства Института, в котором решающую роль играет коалиционное большинство в Сейме. Наконец, президент не согласен с тем, что проект закона предусматривает возможность сохранения в тайне содержания некоторых «тэчек».

Президентское вето вызвало разноречивую реакцию в верхах. Министр-координатор спецслужб Януш Палубицкий назвал Квасьневского «президентом всех убеков» (образовано от Управления беспеки, аналога КГБ в ПНР). Он выразился более чем резко: *«Интересы функционеров СБ, УБ, НКВД, гестапо и КГБ перевесили интересы людей, преследовавшихся прежним режимом»*. Премьер Бузек объяснил эту реакцию Палубицкого тем, что он был в числе тех, кто на себе испытал гонения со стороны властей. В то же время Бузек разделил горькие разочарования члена своего кабинета.

Сейм будет пытаться отклонить президентское вето на своих ближайших заседаниях. Но даже в том случае, если это не удастся, люстрация не остановится, поскольку прокурор и люстрационный суд, согласно уже принятому закону, сохраняют возможность доступа к документам спецслужб. Что же касается возможности «обиженных» граждан знакомиться с ними, то лидеры «солидаристов» *(AWS)* объявили, что они внесут в Сейм новый закон на этот счет. Причем постараются приурочить эту акцию ко времени президентской кампании, чтобы люди, по словам того же Палубицкого, *«могли видеть, между кем и кем они должны выбирать в поисках отца народа»*.

Польша ищет, спорит... Порой чересчур эмоционально, если иметь в виду министерские заявления. Но министр знает, что президент не вышвырнет его завтра за порог, как ненужную тряпку. Ибо этого не позволит закон. И президент знает, что он может, если захочет, использовать силу закона для защиты своего достоинства.

Это и есть очевидное преимущество демократии.

*Варшава*



# Пакідаючы Захад, забяры tax-free

***Нямногія ў Беларусі ведаюць, што, купіўшы нейкую рэч у краінах Еўрапейскага саюза, можна потым вярнуць частку грошай***

( Каб прэтэндаваць на кампенсацыю, мінімальная сума пакупкі ў адной краме павінна складаць не менш за лічбу, што стаіць у табліцы)

| Краіна | Мінімальная сума пакупкі ў мясцовай валюце | Мінімальная сума пакупкі ў доларах |
|---|---|---|
| Аўстрыя | 1001 шылінг | 85 USD |
| Бельгія | 5001 франк | 145 USD |
| Вялікабрытанія | 30 фунтаў стэрлінгаў | 50 USD |
| Галандыя | 301 гульдэн | 160 USD |
| Германія | 50 марак | 30 USD |
| Грэцыя | 40001 драхма | 150 USD |
| Данія | 301 крона | 45 USD |
| Ірландыя | любая сума | |
| Іспанія | 15000 песет | 105 USD |
| Італія | 300000 лір | 180 USD |
| Люксембург | 3000 франкаў | 85 USD |
| Партугалія | 11700 эскуда | 70 USD |
| Фінляндыя | 250 марак | 50 USD |
| Францыя | 1200 франкаў | 210 USD |
| Швецыя | 200 крон | 25 USD |

Падатак на дададзеную вартасць у розных краінах Еўрасаюза складае, у прыватнасці: у Іспаніі — 14 працэнтаў, у Галандыі і Вялікабрытаніі — 15, у Германіі — 16, у Францыі, Бельгіі і Аўстрыі — 17, у Італіі — 20 працэнтаў.

**СПРАВА** ў тым, што ў цану любога тавару, які прадаецца ў краінах Еўрасаюза, уваходзіць гэтак званы падатак на дададзеную вартасць — ПДВ (ці *VAT* у міжнароднай тэрміналогіі). Гэты падатак плаціць кожны пакупнік, але ў выпадку, калі тавар вывозіцца за межы ЕС, вы можаце вярнуць назад 10-15 працэнтаў яго кошту. Для гэтага трэба выканаць некалькі простых правілаў.

Купляючы, напрыклад, музычны цэнтр, перш за ўсё пацікаўцеся, ці ўдзельнічае крама ў сістэме *«Global Refund»* — гэтая сістэма забяспечвае зварот сплачанага ПДВ. Як паведамляе інфармацыйная старонка *«Global Refund»* у Інтэрнэце, у сістэму ужо ўваходзіць больш за 125 тысяч крамаў, так што знайсці такія крамы будзе даволі проста.

Папрасіце прадаўца або касірку аформіць вам вызваленне ад падатку (*tax-free*). На спецыяльным бланку супрацоўнік крамы мусіць дакладна ўказаць усе набытыя вамі тавары, цану, агульную суму кампенсацыі, якую вы можаце атрымаць, а таксама вашыя дадзеныя: імя, дакладны адрас і нумар замежнага пашпарта. Па магчымасці дапамажыце прадаўцу запоўніць бланк. Да бланка мусіць быць прымацаваны арыгінальны чэк крамы.

Непасрэдна перад тым, як пакінуць межы агульнаеўрапейскага рынку, вам трэба прад'явіць мытнікам краіны, праз якую вы выязджаеце, набытыя рэчы і *tax-free*. Мытнік мусіць паставіць адзнаку, што тавар сапраўды вывезены за межы Еўрасаюза. Але майце на ўвазе, што грошы не вяртаюцца, калі з дня продажу тавару прайшло больш за тры месяцы.

Пасля перасячэння мяжы ЕС вы можаце атрымаць грошы наяўнымі ў канторах, якія спецыяльна займаюцца зваротам ПДВ. Такія канторы ёсць на ўсіх асноўных памежных пунктах ЕС, а таксама ў буйнейшых еўрапейскіх аэрапортах.

Дарэчы, яшчэ зусім нядаўна крымінальныя групоўкі, у асноўным з краінаў СНД, нядрэнна зараблялі на *tax-free*. Зайшоўшы ў адну з нямецкіх крамаў, што гандлююць складанай электрабытавой тэхнікай, яны чакалі, пакуль нехта набудзе дарагі тэлевізар або пральную машыну, а потым прасілі яго прадаць за 10-20 марак пустую упакоўку ад тавару і чэк. Потым спакойна афармлялі сабе *tax-free* і ехалі з каробкай на мяжу. Там яны прад'яўлялі чэк і скрынку, мытнік ставіў пячатку, што тавар вывозіцца за мяжу, і махляры тут жа атрымлівалі наяўныя. Займаючыся такім «няпыльным» бізнесам, яны за месяц зараблялі некалькі тысяч нямецкіх марак. Толькі нядаўна нямецкія мытнікі зразумелі сваю памылку і пачалі патрабаваць прад'явіць не толькі ўпакоўку, але і сам тавар.

У Беларусі грошы па *tax-free* можна атрымаць у любым аддзяленні «Беларускага біржавога банка» альбо ў банку «Навіком» — так запісана ў рэкламных буклетах, што выдаюцца ў краме разам з *tax-free*. Буклеты паведамляюць таксама, што «там вы зможаце адразу атрымаць ПДВ наяўнымі грашыма і ў валюце, якую пажадаеце».

На жаль, складальнікі буклетаў не ўлічылі беларускіх рэаліяў. У «Беларускім біржавым банку» мне паведамілі, што пакуль толькі робяць рэкламу новай паслугі, але грошай не выплачваюць. Праўда, мяне запэўнілі, што літаральна «праз два-тры тыдні» паслуга пачне дзейнічаць, і тады можна будзе атрымаць грошы, але толькі ў беларускіх рублях і па курсе гэтага банка.

У банку «Навіком» усё аказалася значна прасцей — яны ўжо выплачваюць грошы па *tax-free*, але зноў-такі ў рублях і... па курсе Нацбанка.

Такім чынам, лепш паклапаціцца аб вяртанні падатку за мяжой.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

## Снегу намяло на рэкорд

**За першыя дзесяць дзён зімы ў Мінску ў выніку снегападаў велічыня снежнага покрыва дасягнула 24 сантыметраў. За ўсю гісторыю метэаралагічных назіранняў такога яшчэ не было.**

Сёння ў Мінску воблачна з праясненнямі, месцамі невялікі снег, магчымы галалёд. Тэмпература ў сталіцы -3...-5 градусаў марозу.

Па Беларусі ў бліжэйшыя двое сутак (16 і 17 снежня) ноччу -2...-7 марозу, днём +1...-4.

**М.К.**

КАДРЫ




*На здымку: работнікі мінскіх камунальных службаў ачышчаюць дахі дамоў ад вялізных ледзяшоў. Гэтай працы ім хопіць надоўга.*

## 1998 – год катастроф

**В 1998 году различные стихийные бедствия унесли жизни 32 тыс. человек.**

Экономические потери в этом же году превысили предыдущий мрачный рекорд, установленный в 1996 году, — тогда ущерб оценивался в 60 млрд. долларов.

К числу причинивших наибольший ущерб стихийных бедствий отнесен тропический ураган «Митч» — самый разрушительный ураган в Атлантике за последние 200 лет. Он унес жизни примерно 11 тыс. человек, а ущерб материальный от него, по предварительным оценкам, превысил 5 млрд. долларов.

## Европейцы подросли

**За последние 100 лет европейцы подросли на 18 сантиметров, утверждают германские ученые. По их оценкам, средний рост жителей европейского континента достигает сейчас 180 сантиметров.**

Причину наблюдаемых изменений ученые видят прежде всего в росте благосостояния, которое ведет к увеличению физических «параметров» жителей Европы. В конце XIX века рост европейцев составлял в среднем 162 сантиметра.

## Путешествие под Ла-Маншем

**Стали известны некоторые детали путешествия одного чудака из России, который совершил уникальный пеший переход под проливом Ла-Манш.**

Он нелегально проник в суперохраняемый Евротоннель и за три дня благополучно преодолел 50 км. Специалисты до сих пор удивляются, как он остался жив. Ведь поезда по тоннелю носятся с бешенной скоростью — около 150 км в час. При этом образуются мощные вихри, которые затягивают все посторонее под колеса. Спрятаться практически негде. Разве что в узких «карманчиках», расположенных через каждые 375 метров.

Как сообщает газета «Новые известия», дирекция Евротоннеля до сих пор находится в шоке — такого в истории этого сооружения еще не было. Впрочем, ничего удивительного: никому раньше и в голову не приходило подвергать себя чудовищной опасности.

Зовут 36-летнего путешественника Андрей Матвеев, он обычный рыбак из Мурманска. Но мужик был не просто туристом, а шел конкретно во Францию, с тем, чтобы вступить в Иностранный Легион.

По предварительной информации, Андрей Матвеев прибыл в Шотландию на рыболовецком траулере-морозильнике «Северная звезда». Самовольно покинув судно, он автостопом добрался до Англии. Затем нашел «лазейку» в тоннель. Задержали его при выходе на поверхность.

Руководство тоннеля теперь сильно ломает голову над тем, как сей человек смог проникнуть в тоннель незамеченным — входы в него окружены витой проволокой и высоким забором, не говоря уже о множестве телекамер. Опасения понятны — а если террористы?

**Андрей ЛЕВКИН**

## Голодовка в защиту животных

**Уже 64 дня в больнице Йорка голодает Бэрри Хорн, который борется за права животных, в частности, лабораторных крыс и морских свинок.**

Он уже не может подняться с постели, у него отказали печень и почки, и он похудел с 80 до 40 килограммов, однако все еще находится в сознании. Первый из североирландских голодовщиков Бобби Сэндс умер на 66 день после того, как перестал принимать пищу.

После того, как он впадет в кому, что, скорее всего произойдет очень скоро, Хорн запретил себя реанимировать. А требует этот человек всего лишь выполнения предвыборного обещания лейбористов об учреждении комиссии для изучения вопроса об экспериментах на животных. Правительство Блэра отказывается «поддаваться шантажу». Хорн является активистом Фронта за освобождение животных — группировки подпольной и не чурающейся насилия. До начала голодовки он находился в тюрьме, где отбывал 18-летнее заключение за поджоги аптек, торгующих медикаментами и косметическими средствами, которые испытываются на животных. Заметим сразу, что планировались все поджоги с таким расчетом, чтобы ни жертв, ни раненых не было, однако он успел спалить имущества на 30 миллионов французских франков.

Журналист *Guardian*, который досконально изучил вопрос, утверждает, что Фронт является самым эффективным террористическим движением, которое когда-либо действовало в Великобритании. Организация состоит из множества небольших групп общей численностью 300–400 человек, руководимых тремя десятками активистов. Их кредо заключается в том, что между людьми и животными нет никакой разницы, они отвергают приручение и содержание домашних животных, считая это рабством. Все они «веганы» (вегеталианство является высшей формой вегетарианства и запрещает не только употребление мяса и рыбы, но и любых продуктов, имеющих отношение к животным, — молока, сыра, яиц, а также использование шерсти, кожи и т. д.). А на прошлой неделе группа, именующая себя *The Animal Rights Militia*, пообещала, что уничтожит 10 ученых, которые проводят опыты на животных, если Бэрри Хорн умрет. Полиция прислушалась к угрозе и усилила меры безопасности в районе лабораторий, зоопарков, университетов, больниц.

**Валерия ШАБАЕВА**

## Главное – изъять оружие. Любое!

**Разгул преступности в Замбии, похоже, всерьез «достал» местные власти.**

Вслед за «общенациональным сбором» у населения незаконно хранимого огнестрельного оружия начат крестовый поход и против оружия игрушечного. Всем магазинам и лавкам предложено немедленно прекратить торговлю любыми игрушками, имитирующими оружие. Полиции же предписывается неукоснительно конфисковывать запрещенный к продаже товар в случае его появления на прилавках. Последняя мера уже принесла явные плоды. Если за первые три дня сбора настоящего оружия в полицию по всей стране были сданы всего три пистолета (два из них, однако, оказались неисправными), то лишь за один рейд по столичным магазинам и рынкам стражам порядка удалось конфисковать несколько сотен «стволов». Правда, пластмассовых. Но будет ли от этого в стране поспокойнее?

## Украинский след

**Преступная организация, занимавшаяся международной проституцией, раскрыта в итальянской столице.**

Банда незаконно ввозила в Италию молодых женщин из Украины, Румынии и Югославии, а затем принуждала их торговать своим телом. Римская полиция арестовала девять человек, в том числе саму бандершу — гражданку Украины, а также ее румынских подручных. У преступников конфисковано несколько автомобилей, золото, а также значительные суммы денег.

**Б.П.**

## Даты і лёсы

### 15 снежня

**1832.** Нарадзіўся Аляксандр Гюстаў Эйфель — французскі інжынер, пад кіраўніцтвам якога ў Парыжы была пабудаваная знакамітая 300-метровая вежа.

**1922.** Нарадзіўся амерыканскі ды-джэй Алан Фрыд, вынаходнік тэрміна *rock'n'roll*. Развітаўся з радыёэфірам у 1960 г. у выніку скандалу, звязанага з наркотыкамі.



**1852.** Нарадзіўся Антуан Анры Бекерэль ***(на здымку)***, французскі фізік, які адкрыў радыеактыўнае выпраменьванне, Нобелеўскі лаўрэат 1903 г.

**1934.** Нарадзіўся Станіслаў Шушкевіч, першы кіраўнік незалежнай Беларусі.

**1965.** Адбылася першая сустрэча двух караблёў у космасе. Амерыканскія пілатуемыя караблі *Gemini-6* і *Gemini-7* чатыры гадзіны ляцелі па валакназемнай арбіце побач на адлегласці 1,8 м адзін ад аднаго.

**1978.** КНР і ЗША «прызналі адно аднаго» і дамовіліся пра ўсталяванне дыпламатычных адносінаў. Амерыканцы абавязаліся скасаваць дыпламатычныя адносіны і дамову пра «ўзаемную абарону» з Тайванем. У тыя гады нарадзіўся жарт: «Ёсць толькі адзін добры гатунак камуністаў — кітайцы».

**1978.** Фірма *Philips* выпусціла ў продаж першыя лазерныя відэадыскі.

**1981.** Генеральная Асамблея ААН прызначыла генеральным сакратаром Арганізацыі Аб'яднаных Нацыяў перуанскага дыпламата Хаўера Перэса дэ Куэльяра. На гэтай пасадзе ён заставаўся два пяцігадовыя тэрміны — да канца 1991 г.

**1986.** 28 найбольш аўтарытэтных прадстаўнікоў беларускай інтэлігенцыі, у тым ліку літаратары В.Адамчык, Р.Барадулін, Я.Брыль, В.Быкаў, П.Панчанка, мастак Л.Шчамялёў, народная артыстка БССР С.Станюта і іншыя, накіравалі на імя генеральнага сакратара ЦК КПСС адкрыты ліст, у якім пратэставалі супраць дыскрымінацыі беларускай мовы на яе гістарычнай тэрыторыі, што парушае правы чалавека і прыніжае годнасць нацыі. Прапанаваныя ў лісце меры па паляпшэнні становішча нацыянальнай мовы ў рэспубліцы Крэмль праігнараваў.

### 16 снежня

**1773.** 150 «сыноў Свабоды», пераапранутыя індзейцамі з племя магаўкаў, выкінулі ў ваду з брытанскіх караблёў у Бостанскім порце 342 скрыні гарбаты: з пагаршэннем адносінаў паміж Англіяй і яе амерыканскімі калоніямі пошлінa на гарбату лічылася непатрыятычна.

**1862.** Адчынілася першая на тэрыторыі Беларусі чыгуначная лінія Парэчча—Гродна (частка Пецярбургска-Варшаўскай чыгункі).

**1903.** Нарадзіўся вядомы беларускі мастак, класік сацрэалізму Іван Ахрэмчык.

**1918.** У Вілейцы быў абнародаваны Маніфест пра стварэнне Літоўскай Савецкай Рэспублікі. Урад Савецкай Расіі прызнаў суверэнітэт ЛСР ужо праз чатыры дні.

**1986.** У Алма-Аце пачаўся першы міжнацыянальны канфлікт эпохі перабудовы, справакаваны прызначэннем на пасаду першага сакратара ЦК кампартыі Казахстана маскоўскага функцыянера Г.Колбіна.

**1987.** У Палерма скончыўся буйнейшы за ўсю гісторыю працэс над сіцылійскай мафіяй. З 474 падсудных два былі застрэленыя паплечнікамі, 19 мафіёзі былі асуджаныя да пажыццёвага зняволення, астатнія падзялілі 2.655 гадоў зняволення і 9,6 млн. долараў штрафу.

### 17 снежня

**1770.** Нарадзіўся Людвіг Бетховен ***(на здымку)***, нямецкі кампазітар.

**1778.** Нарадзіўся англійскі хімік сэр Хемфры Дэві, вынаходнік бяспечнай лямпы для шахцёраў і першаадкрывальнік металаў калію, натрыю і стронцыю. У гэты ж дзень у 1908 г. нарадзіўся амерыканскі хімік Ўілард Лібі, вынаходнік радыёвугляроднага метаду вызначэння дакладнага ўзросту знаходак геолагаў і археолагаў, а таксама твораў мастацтва.

**1903.** У штаце Паўночная Караліна ў 10:35 узняўся ў паветра першы самалёт з рухавіком унутранага згарання, пабудаваны братамі Райт. Першы палёт доўжыўся 12 сек. (36,5 м). У той дзень Орвіл Райт зрабіў яшчэ тры палёты. Працягласць найбольш удалага з іх дасягнула 59 сек (250 м).

**1926.** Паводле вынікаў перапісу насельніцтва, у Мінску ў той дзень жылі 130.838 чалавек.

**1938.** Пасля расстрэлу наркамаў унутраных справаў БССР Б.Бермана і А.Наседкіна кіраўніком рэспубліканскіх органаў дзяржбяспекі быў прызначаны сябар Берыі Л.Цанава. Гэты кат таксама загінуў за кратамі ўласнай «фабрыкі смерці».

**1967.** Акулы загрызлі прэм'ер-міністра Аўстраліі Гаральда Холта, калі той купаўся ў акіяне каля ўзбярэжжа штата Вікторыя.

**1981.** ЗША парвалі ўсе эканамічныя сувязі з Польшчай, каб пакараць яе кіраўніцтва за ўвядзенне ваеннага становішча і рэпрэсіі супраць «Салідарнасці». 29 снежня эканамічныя санкцыі былі распаўсюджаныя і на СССР.

**1986.** Англічанка місіс Дэвіна Томпсан сталася першым чалавекам, якому паспяхова перасадзілі адразу сэрца, лёгкія і печань.

*Падрыхтаваў*
**Юрась БАРЫСЕВІЧ**

© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. E-mail: edit@svaboda.minsk.by Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996 Юрыдычны адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173.
Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 1273 Нумар падпісаны ў друк 14/12/98 (15:00) Наклад — 18.250